Pryidel Wl. Słowakowsky 21-6


Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкратар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 26 (78) | Вільня, 15-га кастрычніка 1935 г. | Год 3-ці.


## Духавенства і Царква-Народ

Адначасна з „Самодержавіем" як ведама прыйшло да нас і «рускае» праваслаўе. Кажам «рускае», бо-ж праваслаўная вера на Беларусі была шмат раней ад „самодержавія".

Загарнуўшы Беларусь пасьля трэцяга падзелу Польшчы расейскі царскі ўрад пачаў пляновую й жорсткую русыфікацыю нашага краю. Гэты русыфікацыйны націск быў асабліва жорсткі на Беларусі, дзе, як ведама, пераважная большасьць насельніцтва была праваслаўная.

Праваслаўная Расея рашыла, што ўсе славянскія праваслаўныя народы павінны быць народамі «искони» рускімі, ня хочучы і слухаць аб нейкіх украінцах ці беларусах. Дзеля больш хуткае русыфікацыі забранага краю, так званага „Северо - Западнаго", царскі ўрад наслаў цэлыя хмары жандармаў і сьвецкіх і духоўных.

Дзеля таго аднак, што праца сярод чужога народу, які меў свае звычаі і сваю мову, для прысыланых расейскіх урадоўцаў была нялёгкай, а часта і вельмі няпрыемнай, ахвотнікаў у Расеі было мала, тым больш, што і без Беларусі тэрыторыя Расеі была вялікая, а культурных сілаў было вельмі мала.

І вось пачалі сюды прысылаць тых, каму ўжо ня было месца ў Расеі, г. зн. такіх тыпаў, „пад якімі на сваёй Бацькаўшчыне ўжо гарэла, так сказаць, зямля. Такім чынам Беларусь атрымала найгоршы элемэнт.—Нічога дзіўнага, што расейскі чыноўнік часта быў сынонімам узятачніцтва, п'янства і буянства.

Так тварыліся кадры „обрусителей Северо - Западнаго" краю.

Але на сьвеце няма нічога вечнага. Магутны здавалася і няпрыступны расейскі царскі трон рухнуў і... зьгінуў.

Зьмянілася дзяржаўная форма зьмяніліся і граніцы. Польшча, ад каторай калісь расейскі цар адарваў Беларусь, адрадзілася, — уваскросла. Неўдалося, што праўда, ёй адрадзіцца ў даўнейшых граніцах, але аднак частка тэрыторыі, захопленай маскалямі, ізноў апынулася ў яе межах. Адначасна ў Расеі пачалі бязьлітасна распраўляцца і з царскімі прыслужнікамі, шмат хто з іх павінен быў уцякаць з свае Бацькаўшчыны. Зразумела, што пры такіх абставінах амаль усе чыноўнікі, прысланыя калісь для русыфікацыі нашага краю, тут і асталіся. Ня маючы грунту пад нагамі, ня знаючы ані польскае, ані беларускае мовы, гэныя колішнія расейскія патрыёты, пачалі пяяць на новы лад.

Найбольш „дабра" гэтага асталося ў нашым краі сярод духавенства. Здушыўшы беларусаў за часы царскага тут панаваньня, гэныя „сьвятыя" айцы асталіся гаспадарамі палажэньня, захапілі ўсю праваслаўную Царкву ў свае рукі.

Заняўшы кіраўнічыя становішчы, гэныя нядаўнія „обрусители" сталі найбольшымі польскімі„патрыётамі", а прыймаючы пад увагу, што ў той час на чале польскага Ураду былі эндэкі, якія паставілі сабе за мэту праглынуць першнаперш беларусаў, праваслаўныя іерархі загнулі анты-беларускую лінію ўва ўсей паўнаце. Гэткая палітыка для іх, што праўда, была найлягчэйшай—бо-ж была прадаўжэньнем таго, што праводзілася за «добрыя царскія часы».

Прыйшлося, зразумела, з свайго „матэрынскага" языка выкінуць так часта калісь ужываныя „лях" і „мятежник", ну, але што-ж зробіш: „Всякая душа властем предержащим да повинуется", паўтаралі яны пры ўсякай нагодзе.

Час аднак ішоў... эндэцыя песеньку сваю сьпяяла і пакацілася — дакаціўшыся ўрэшце да Берасьця і Картузкае Бярозы.

Новыя „власти предержащія" раптам пачалі забараняць то тут, то там праводзіць „сьвятым"праваслаўным айцам русыфікацыю беларускае моладзі праз выкладаньне рэлігіі на „материнском" языке Загадалі перайсьці ці то на беларускую, ці то на польскую мову. Нават такому можна сказаць „столпу" расейскага праваслаўнага духавенства, як бліжэйшаму памочніку арх. Хвядоса—айцу Васілеўскаму школьны інспэктар забараніў выкладаць на „материнском языке".

Пачаліся рады ды нарады; ўрэшце больш спрытныя дагадаліся—і пачалі выкладаць **папольску.**

Піонэрам ў гэнай справе быў, зразумела, пінскі ўладыка Александар, якому ўсё дакучаў пракурор нейкай справаю, а за ім рад старацца і гарадзенскі еп. Антоні — відаць каб нечым іншым не дакучалі, ды з„р.о." настаяшчым архірэям зрабілі. Урэшце, відаць, і Віленскаму Уладыцы а. Дзічкоўскія з Беляевымі параілі, што пара пайсьці сьледам Пінску і Гарадні.

Напужалі, накруцілі слабавольнага старыка, а самі ручкі пацірають. Дзічкоўскі думае, што перад Уладамі гэтым сабе „марку" паправіць, ды ў кансысторыю ўлезе, а там... усё будзе пастарому: польскі — на вынас, а „материнскій" для ўнутранага спажываньня.

І ўсё гэта робіцца зразумела ня з унутранага пераканаьня, а толькі і выключна з сваіх шкурных меркаваньняў для сваіх эгоістычных мэтаў.

А што-ж для Царквы — для Народу, якому яны павінны служыць?

А можа гэта для Дзяржавы з вялікага патрыётызму? Не і яшчэ раз не! Наадварот, такім сваім паступаньнем гэтыя іерархі робяць вялікую шкоду ня толькі Беларусам, але перадусім Царкве і Дзяржаве — бо-ж з аднаго боку, гледзячы на такія паступаньні духавенства, ў народзе пашыраецца бязбожніцтва, а з другога боку—паўстае ненавісьць да Улады й да самае Дзяржавы. Народ думае, а ўрэшце дзе-ні-дзе, каб апраўдаць гэтыя недарэчнасьці, і само духавенства падтрымоўвае вэрсію, што быццам гэтага дамагаецца Польская Улада. Такім чынам сьледам за бязбожніцтвам ідзе камунізм, а за ім, як ведама, і ўсялякія няшчасьці — бо-ж з боку ўлады, зразумела, прыймаюцца розныя абаронныя сродкі, якія часта б'юць ня толькі па вінаватых, але, нажаль, і па зусім нявінных.

Пара урэшце з гэтым раз скончыць!

Беларускаму народу не патрэбны ані«обрусители», якіх ён толькі што пазбыўся, ані слабавольныя старцы ў пастаці архіеп. Хвядоса.

Віленская кафэдра павінна мець такога архіепіскапа, які-б быў зьвязаны з народам, знаў яго псыхіку, разумеў і шанаваў яго мову—бо-ж гэта сьвятое-сьвятых кожнага народу,— знаў яго звычаі, ды ўсе балячкі яго жыцьця — архіепіскапа, які быў-бы чалавекам жывым, з «здравым умом і цьвёрдай памяцяй".

Беларускі народ ня хоча каб ім кіравалі розныя прахадзімцы і беларусаеды ў пастаці „слаўнае" сямейкі Дзічкоўскіх і ікж з імі!

І нічога дзіўнага, што сярод Беларусаў паўстала думка парвацць канчальна з такім парадкам, які існуе ў Віленскай Епархіі ды выйсьці з пад яе парадкаваньня, утвараючы **Беларускую Нацыянальную Царкву.**

Калі украінцы ўрэшце пазбыліся русыфікатараў, дык ясна, што пазбудуцца іх і беларусы толькі магчыма, што тут опэрацыя зроблена будзе больш радыкальна.

Задоўга мы цярпелі, каб магчымы былі яшчэ якія-небудзь кампрамісы. Трэба сьмела й рашуча адрэзаць усё гнілое і гніючае, бо інакш немагчыма выздараўленьне арганізму Царквы.

І не памогуць тут ужо ніякія шырмы, якімі хоча прыкрывацца расейскае праваслаўнае духавенства. Ня выратуе яго нават польская мова. Мы заяўляем публічна і адкрыта ўсім праваслаўным беларусам, што 1) **з боку, Польскага Ураду ня было і няма ніякага загаду, каб пропаведзі для Беларусаў гаварыліся папольску,** 2) **ня было, няма і ня будзе загаду, каб праваслаўныя беларусы маліліся Богу папольску,** 3) **ня было і няма загаду каб Закон Божы для беларускіх дзетак выкладаўся папольску.**

Наадварот, ёсьць выразны загад міністэрства асьветы, што Закон Божы праваслаўныя сьвяшчэньнікі павінны выкладаць у роднай матчынай мове дзяцей, г. зн. беларусам — пабеларуску.

Тыя сьвяшчэньнікі русыфікатары, якія паклікаюцца на нейкія загады ўладаў — папросту ілгуць!

Мы маем ужо, дзякуй Богу, дастатачную колькасьць сьвяшчэньнікаў - беларусаў, якіх між іншым архіеп. Хвядос з сваёю Кансісторыяй трымае на найгоршых прыходах, а якія верым станeць, як сапраўдныя апосталы, у абароне свайго пакрыўджанага беларускага народу, споўніўшы гэтым самым **волю** паслаўшага іх на служэньне бліжняму, волю—самога Госпада Ісуса Хрыста, які дамагаўся ад сваіх апосталаў ісьці з „малымі" гэтага сьвету, г. зн. з усімі пакрыўджанымі ды абяздоленымі.

*Эра.*

**Пашырайце нашу газэту.**

# Вайна дорага каштуе

Вайна ў нашыя часы каштуе гэтак дорага, што нават калі яна і скончыцца ўдачна для аднае з пачаўшых яе старонаў, дык наўрад ці хутка аплаціцца. Прымітыўныя способы збройнай барацьбы адыйшлі ў гісторыю. Сяньня ўжо вайна выклікае нячуванае напружаньне ўсіх дзяржаўных сілаў. Вайна праглынае ўсе матар'яльныя рэсурсы, ня лічачы ахвяраў жывымі людзьмі. Здаецца, быццам ужо ня людзі ваююць, а машыны. Калі ў дзяржаве няма сучасных забойчых машынаў: самалётаў, танкаў, машынных карабінаў ды газавых бомбаў, дык ваяваць ёй прыходзіцца... грашыма. Каб зраўняцца па зброі з праціўнікам, прыходзіцца гэтыя машыны дорага купляць. Ахвотнікі прадаць іх — за вялікія грошы — заўсёды знайдуцца.

Яшчэ не пачалася, як мае быць, афрыканская вайна паміж Італіяй і Абісініяй, калі „Gazeta Polska" паслала ў Афрыку свайго корэспондэнта д-ра Багдана Рыхтэра.

У аднэй яго „корэспондэнцыі з дарогі", высланай у бягучым кастрычніку месяцы з Суэцу і зьмешчанай 5.Х. у „Gaz. Pol." знаходзім цікавыя лічбовыя дадзеныя аб коштах ужо пачатай вайны для Італіі, як і аб тым, колькі яна можа каштаваць у год, як для аднэй, так і другой стараны, увайшоўшай у стан вайны.

— Яшчэ не разьлёгся а ніводзін стрэл, — піша д-р Рыхтэр, — а Італія ўжо зрасходавала два мільярды ліраў і паважна пачала трэці. З першымі ваеннымі шагамі, ведама-ж, павялічылася ўжываньне прыладзьдзя і перш за ўсе расход амуніцыі. Дык можна прыпушчаць, што і месячныя кошты значна яшчэ пабольшацца. Але дзеля палягчэньня сабе рахунку, дапусьцем на мінуту, што кошты застануцца тыя самыя і што будуць яны раўняцца, больш-менш, аднаму мільярду ліраў квартальна. Гэта значыць, што год вайны каштаваў бы Італіі, разам з ужо зрасходаванымі трыма мільярдамі, каля сямёх мільярдаў ліраў, або на польскія злотыя 2.800.000.000, слоўна: два мільярды восемсот мільёнаў, на гэтых восемсот мільёнаў болей, чымсь ўсе расходы Польскае Дзяржавы.

Але Італія — вялікая дзяржава, кіраваная дзяржаўнымі мужамі, якія ведаюць, што робяць. А што-ж зробіць Эфіопія (Абісінія)—край дзікі, першабытны, пазбаўлены прамысловасьці? Скуль вазьме грошы, каб даць адпор Італіі? Ці наагул мае скуль узяць іх?

У тэорыі трэ'было-б залажыць, — паколькі сіла адпору павінна раўняцца сіле напору,—што эфіопскія кошты павінны быць, больш-менш, роўнымі італьянскім коштам. У запраўднасьці Эфіопія, пазбаўленая ваеннай прамысловасьці, мусіць плаціць за зброю і амуніцыю шмат даражэй, як Італія, каторая купляе за граніцай толькі патрэбнае ёй сыр'ё, перарабляючы яго ў сябе ў прылады барацьбы. Замест гэтага Эфіопіі нічога не каштуе перавозка жаўнераў — вельмі значная пазыцыя ў італьянскім ваенным бюджэце, — і нічога не каштуе жаўнерская пэнсія, бо войска (абісінскае), апрача гвардыі, не атрымлівае яе. Далічыўшы яшчэ ніжэйшы ровень харчаваньня ды вельмі нізкі ровень лекарскае падмогі (які на раненых ды хворых адаб'ецца трагічна), можам эфіопскія ваенныя кошты аблічаць на 50 процантаў коштаў італьянскіх. Або — год вайны будзе каштаваць Эфіопіі прыблізна 2 мільярды ліраў (каля 800.000.000 злотых).

Ці Эфіопія будзе магчы на гэткую суму здабыцца?

Потэнцыяльна так, бо потэнцыяльна Эфіопія — край вельмі багаты іначай, дык Італія не старалася-б яе здабыць). 10.000.000 штук рагатай жывёлы, 4.000.000 бараноў „black head", якія даюць вельмі ходкую скуру на рукавіцы, надзвычайна ўраджайны і цалінны яшчэ грунт, лясы, поўныя цэннага будульцу, сталярскага дзерава і дзікай, найлепшай на сьвеце, кавы, вельмі значныя бяссумліўна мінэральныя багацьці — гэта ўсё шматмільярдовыя вартасьці, ды нажаль дасюль блізка што зусім нявыкарыстаныя; трудна іх замяніць на гатовыя грошы.

Земляробства вядзецца зусім прымітыўна, дапатопнымі прыладамі, бяз штучных гнаёў і яго ледзь стае на ўласныя патрэбы. Выняткам зьяўляецца бэльгійскае т-ва Société des Plantations (створанае ў 1923 годзе з капіталам у 30.000.000 бэльгійскіх франкаў), якое ў 1934 г. на сваіх 1.500 гэктарах зямлі ў Аррусі (правінц. Гаррар) выпрадукавала 650.000 кілёграмаў найлепшае кавы.

Лясныя багацьці, эксплёатаваныя нібыто некалькімі эўрапэйскімі фірмамі, ня могуць даць значнейшых даходаў эфіопскаму ўраду, з прычыны поўнай адсутнасьці спосабаў перавозкі.

Пра мінэральныя багацьці можна сказаць якраз столькі, колькі пра таго прыказковага ката ў мяшку: усе ведаюць, што гэтыя багацьці ёсьць, але ніхто іх ня бачыў. Італьянскія концэсіянэры дабылі плятыны ў 1932 годзе на 3.670.000 франкаў (230 кілёграмаў) і ў 1933 годзе на 2.080.000 фр. (180 клгр.).

Даход эфіопскага скарбу з усіх гэтых прадпрыемстваў вельмі малы, каб магло яго стаць на вядзеньне вайны.

Невялікі даход даюць і манаполі: на соль, на табаку, сернікі і гарэлку.

У эўрапэйскіх варунках заставайся-б яшчэ падатак ад зямлі, ад быдла ды магчыма і ад даходу. У Эфіопіі аб падатках гэткіх ня можа быць і гутаркі, бо ўвесь край жыве зусім яшчэ фэодальным жыцьцём. Гэта значыць, што ён дзеліцца на паасобныя краіны, блізка што незалежныя ад цэнтральнага ўраду: краіны ізноў дзеляцца на акругі, якія ня вельмі слухаюць уладароў краінаў... Нэгус Нэгэшті (цар цароў) атрымлівае ад сваіх *расаў* якраз гэтулькі, колькі яны самі хочуць (і могуць) яму даць, або гэтулькі, колькі патрапіць з іх выціснуць. Атрымлівае гэта ў форме падарку, які дае яму рас, выкліканы ў сталіцу. Калі нэгус незадаволены „падаркам", дык трымае раса ў сталіцы (аб „арышце", з далікатнасьці, не гаворыцца) аж датуль, пакуль расава дружына не пераканае нэгуса стрэльбамі, што падарак зусім людзкі. Ясна, што пры гэткай сыстэме падаткаў, сам міністар фінансаў не заўсёды можа сказаць, колькі будзе мець на бягучы год грошай у скарбе...

Застаецца яшчэ мытны даход ад увозу, вывазу і перавозу (транзыту). Падатак мытны вельмі высокі: на прывазныя тавары ад 20 да 56 проц., на вывазныя—10 проц. Але статыстыкі няма і даход гэты азначыць трудна. Аднак-жа, калі дапусьціць, што гадавы эфіопскі гандлёвы абарот не перавышае 43.000.000 злотых, дык нават 30 процантаў гэтае сумы дае за год ня вельмі шмат.

Апошнія аблічэньні: гатовых грошай ёсьць у Абісініі каля 40.000.000 талераў Марыі-Тэрэзіі ды каля 200 000 талераў Мэнэліка; талер цяпер — 3 зл. Дык, калі-б урад забраў усе грошы і замяніў іх папяровымі, то зьбярэ ён каля 120.000.000 злотых, з варункам, што ніхто нічога ў панчоху не схавае і ўсё аддасьць у скарб.

Абісінцам застаецца адно: „прадаваць свае багацьці на пні, за бясцэн" розным концэсіянэрам, каб толькі дастаць грошы, патрэбныя на абарону свайго краю.

## З краю.

— Польская пошта атрымала паведамленьне, што пісьмы, высланыя ў Абісінію, з прычыны вайны, даручацца адрэсатам ня будуць.

# Гаспадарчы аддзел.

### Варта падумаць аб гадоўлі сьвіней на бэконы.

Нядаўная падвышка цэнаў на мясныя прадукты змушае нас зьвярнуць большую ўвагу на жывёлагадоўлю. Трэба адзначыць, што цяперашняя звышка цэнаў не зьяўляецца хвілёвай. Замежным гандлям мяснымі прадуктамі сёлета вельмі зацікаваліся адпаведныя дзяржаўныя дзейнікі. Сумы, прызначаныя для прэм'яваньня экспортных прадуктаў жывёлагадоўлі значна павышаны. Калі-ж прадукты маюць збыт заграніцай, то цана іх заўсёды падымаецца і на ўнутраным рынку. Кепска толькі адно, што гадоўлю жывёлы нельга хутка пашырыць, бо для колькаснага павялічэньня гадаўлянага матэр'ялу патрэбен пэўны час.

З большых гаспадарчых жывёлаў найхутчэй і найлягчэй гадуюцца сьвіньні, асабліва, калі гадаваць не „цяжкі тавар", як у нас зазвычай робіцца, а прыступаць да тучэньня парсюкоў у маладым веку. Трэба сказаць, што гадоўля маладых кармнякоў абходзіцца гаспадаром значна таней, чым выкарм старых сьвіней, т. зван. надворных. Паводле спэцыяльных аблічэньняў парасяты ў веку ад 2 да 4 месяцаў патрабуюць на 1 кілярграм прыросту ад 2½ да 3 кармавых адзінак (кілягр.), тады, як тыя-ж самыя парасяты ў веку 9-12 месяцаў на 1 кілягр. прыросту ўжываюць 4-5 кармавых адзінак. Як бачым, расход гаспадара на кілягрaм мяса пры гадоўлі парасят у маладым веку абходзіцца ў 2 разы таней, чым пры гадоўлі парасят дарослых.

Выкармленыя ў маладым веку, а да таго яшчэ добрага гатунку сьвіньні зьяўляюцца матэр'ялам для прадукцыі т. зв. „бэконаў", якія ідуць на заграfactoryнічныя рынкі, пераважна на ангельскія. Бэконы выбляюцца ў спэцыяльных заводах, дзе забіваюцца парсюкі векам 6-7 месяцаў і вагою каля 90 кілярграмаў. Забітая туша разразаецца папалове, галава, ногі і ўнутранасьці адкідаюцца, і апрача таго з паловак тушы выймаюцца ўсе косьці. Пасьля такія палавінкі тушаў адпаведным спосабам марынуюцца, сушацца і ўрэшце па шэсьць штук складаюцца ў адну плахту, зашываюцца і ў такім выглядзе адсылаюцца на заграНічны рынак.

Нажаль бэконы, якія выходзяць з польскіх бэканярняў, расцэніваюцца на заграНічных рынках вельмі нізка. Калі параўняць ангельскага бэкона з бэконам польскім, то цана першага бывае зазвычай амаль у два разы большай. Прычынай гэтага зьявіцца ёсьць тое, што ў польскія бэканярні дастаўляецца кепскі сьвінны матэр'ял. Дастаўляюцца парсюкі розных расаў. Даўжыня цела і наагул выгляд гэтых парсюкоў рэдка калі адпавядае вымаганьням. Зазвычай цела іх кароткае, жываты абвіслыя, а часам бываюць на парасятах і сінякі ад біцьця.

З усяго гэтага відаць, што цана польскіх бэконаў можа значна падняцца, калі завясьці лепшы сьвіны матэр'ял. Дзеля таго, каб з парсюкоў можна было прыгатаваць добрыя бэконы трэба захаваць наступныя вымогі: 1) гаспадары павінны прыступіць да адкорму парасят зараз-жа пасьля іх нараджэньня, каб кожнае з іх у веку 6-7 месяцаў магло важыць каля 90 кілярграмаў; 2) тулаў такога парасяці павінен быць даўгі і шырокі, хрыбет роўны а жывот поўны, але не абвіслы; 3) шкура павінна быць белая і далікатная; 4) цела не павінна мець ніякіх царапінаў ані сінякоў ад біцьця; 5) парасяты не павінны быць залішне жырнымі. Грубіня сала можа найбольш выносіць 4 цэнтымэтры, і пласт яго павінен быць паўсяму целу раўнамерна разложаны.

Найлепшай пародаю сьвіней на бэконы гэта вялікія белыя ангельскія сьвіньні. Аднак у нашых вясковых умовах трымаць чыстую ангельскую пароду даволі трудна. Нашым гаспадаром варта было-б паступаць наступным спосабам: выбіраць з свае гадоўлі сьвінак, якія па вонкаваму выгляду найболей адпавядаюць вышэйпададзеным вымогам і такія сьвінкі крыжаваць з чыстымі ангельскімі кнурамі, якія можна купляць ў супалку.

Ня можна сьвіней, прызначаных для прадажы, біць, а таксама пры перавозцы трэба старацца, каб сьвіньні не патаўкліся аб драбіны. Туша патоўчаных сьвіней мае крывавыя падцёкі, а такі бэкон вельмі нізка цэніцца. Пры перавозцы ў возах некалькіх штук сьвіней трэба выймаць з лычоў драты, каб сьвіньні не маглі самі сябе пакалечыць.

### Таннае перахоўваньне яек.

Звычайна зімою куры ў нас не нясуцца, а датрымаць яйкі да зімы вельмі трудна. Вось-жа, для перахаваньня яек на даўжэйшы час ёсьць вельмі просты і танны спосаб. Спосаб гэты палягае на тым, што яйкі складаюцца ў нейкую пасуду і перасыпаюцца дробным парашком з дзераўлянага вугля, але так, каб яны не датыкаліся ані між сабой, ані сьценак пасуды. Так зложаныя яйкі могуць праляжаць у халодным месцы (але не на марозе) аж да самых Каляд.

### Сушэньне фруктаў.

Кожваму селяніну добра ведама, якое значэньне маюць у гаспадарцы высушаныя і перахаваныя на зіму яблыкі і грушкі. Сушэньне фруктаў справа не цяжкая нават і пры нашых вясковых умовах.

Сушыць фрукты найлепей у сушыльнях, але наўрад ці за такім спосабам нехта з нашых сялян пагоніцца. Можна сушыць іх і ў печы, але пры гэтым трэба трымацца пэўных правілаў, ккб прадукт быў здавальняючым.

Спачатку яблыкі ці грушкі трэба памыць, а пасьля ўжо саджаць у печ. У печ класьці фрукты трэба ня проста на гарачы чарэнь, як у нас гэта робіцца, а насыпаць іх на спэцыяльныя сеткі. Сеткі гэтыя павінны быць з такога дроту, які не іржавее, або з карэньняў ці дубцоў лазы. Апрача таго сеткі павінны быць узяты ў дзераўляныя рамы. На рамах у пэўных месцах трэба ўбіць калодачкі, каб можна было іх з насыпанымі фруктамі паставіць адну на другую так, каб паміж імі асталіся яшчэ невялічкія прасторы для праходу паветра. Такім спосабам можна адразу высушыць большую колькасьць фруктаў.

Пры сушэньні ня трэба зачыняць печы, а старацца, каб фрукты не сьпякліся, бо тады атрымліваецца ліхі прадукт. Не павінна быць печ і занадта гарачай, бо тады фрукты пушчаюць сок і таксама атрымліваецца кепскі прадукт. Дзеля таго, каб фрукты добра высахлі, трэба іх саджаць у печ некалькі разоў.

### Зьніжка цэнаў на жыта.

Вялікшыя млыны ў Варшаве павысілі цану на муку.

Апошнімі часамі жытняя мука падаражэла з 22 грош. да 23 а нават 24 грош. за кілярграм. Аднак адміністрацыйныя ўлады маюць намер гэтую цану ізноў абнізіць.

## ВааружэньнеГішпаніі

Як пішуць з Мадрыту, урад замовіў у гішпанскіх фабрыках вялікую колькасьць ваеннага матэр'ялу — галоўным чынам палявыя і зэнітныя гарматы. Заграніцай замоўлена партыя самалётаў і танкаў.

## З італа-абісінскага фронту

Атака Адуі, якой пачаліся ваенныя дзеяньні італьянцаў, скончылася з пасьпехам. Адуя апынулася ў руках італьянскіх войскаў.

Па італьянскіх вестках, на паўднёвым фронце італьянскія войскі знаходзяцца ў 50 ці мілях ад Харара. Пасьля захопу гэтага гораду італьянцы будуць старацца заўладаць чыгуначнай лініяй Джыбуцці—Адзіс-Абэба.

Тры італьянскія калонны ўвесь час пасоўваюцца наперад і намераны злучыцца ў цэнтральнай Абісініі. Эўрапэйцы, якія працуюць на чыгуначнай лініі Джыбуцці — Адзіс Абэба, уважаюць, што лінія гэта будзе занята італьянцамі і ў хуткім будучым сталіца Абісініі будзе адрэзана ад сьвету.

На агадэнскім фронце пануе сільная гарачыня, якая перашкаджае ў разьвіцьці італьянскай офэнзывы. Большыя баі вядуцца за заўладаньне Горахаем. Пасьля артылерыйскага абстрэлу італьянскія войскі занялі акопы, пакінутыя абісінскімі часцьямі.

На паўднёвым фронце, так як і на паўночным, абісінцы пераважна вядуць партызанскую вайну. Робяцца спробы прарвацца праз італьянскія лініі і пранікнуць на тэрыторыю італьянскага Сомалі. Але тут падобныя манэўры значна цяжэйшыя, чым на поўначы, дзякуючы вялікшым адлегласьцям між оазісамі і студнямі.

Жорсткія бойкі вядуцца галоўным чым там, дзе якраз знаходзіцца вада. Кожны хоча ёю заўладаць.

У барацьбе з дасканалымі сіламі праціўніка абісінцы ўжываюць розных спосабаў. Падпаліваюць нават кусты, якія пакрываюць пустыню Огадэн ад Доло да ангельскага Сомалі. Дзякуючы гэтаму спосабу барацьбы, абісінцам удалося нядаўна адрэзаць тры даволі сільныя італьянскія атрады ад галоўных італьянскіх сілаў.

Паведамленьні аб тым, што абісінцы ў часе адступленьняў затручваюць ваду, запярэчвуюцца нават італьянскім камандаваньнем. Генэрал Сонціні заявіў корэспондэнтам газэтаў, што абісінцы б'юцца як салдаты, а не як труціцелі.

На паўночным фронце абісінцы выяўляюць значную актыўнасьць каля Суданскай граніцы. У раёне рэкаў Такказэ і Сэціт сконцэнтравана каля 20.000 абісінскіх салдатаў. Абісінскія патрулі пасунуліся да самага Элегіма, які знаходзіцца на сутыку межаў Судана, Эрытрэі і Абісініі.

У Адзіс-Абэбе згуртавана 125-тыс. салдатаў, якія павінны ў прыпадку нападу італьянцаў бараніць сталіцу.

Адзіная тэлефонная лінія, злучаючая сталіцу з паўночным фронтам, — прарвана. У сувязі з гэтым, няма ніякіх бліжэйшых дадзеных аб палажэньні ў Аксуме.

Рэйтэр паведамляе з Адзіс-Абэбы, што ў нэйтральных дыплёматычных колах гаворыцца аб рэгулярных баёх, якія пачаліся на паўночным фронце на поўдні ад Адуі.

Войскі раса Сайюма ўзмоцнілі сваю пазыцыю ў даліне Марафт—Шоаіту ў 10 кілёмэтрах на паўночны-усход ад Адуі. Італьянцы ня могуць пачаць офэнзывы на поўдзень, не ачысьціўшы спачатку гэтай мясьцовасьці ад абісінскіх часьцяў.

———

З Рыму паведамляюць, быццам італьянскія войскі акружылі ўжо горад Аксум. Войскі гэтыя, як гавораць у офіцыяльных колах, не пачынаюць рашучай атакі і высьцерагаюцца сільнага артылерыйскага агню, каб ня зьнішчыць цэркваў і памятнікаў „сьвятога гораду“ абісінцаў.

———

З Лёндану паведамляюць, што на паўночным фронце італьянцам удалося пасунуцца наперад. На лініі Адзіграт—Макальле італьянскія перадавыя калонны падыйшлі да гораду Доло (30 кілёметраў ад Макальле). Кажуць, што гэтае дасягненьне зьяўляецца даволі вялікім пасьпехам італьянскіх войскаў.

## Італьянцы ўжываюць газы.

Як падае „Брытыш Юнайтэд Прэс“, галоўнакамандуючы абісінскай паўднёвай арміі паведамляе, што італьянскія самалёты кідалі бомбы, напоўненыя густым жоўтым газам, робячы гэтым вялікія шкоды салдатам і цывільнаму насельніцтву.

## Становішча Італіі

Італьянскія газэты, паведамляючы аб рэзультатах паседжаньня Лігі Нацый і аб прыйме Лігай рэзалюцыі аб санкцыях, заяўляюць, што Італія была да ўсяго гэтага прыгатаванай.

Але Італія ня пойдзе на ўступкі нават пад пагрозай эканамічнай блёкады, якая да таго-ж ня можа быць праведзена ў 100%. Газэты маюць тут на думцы Аўстрыю і Вэнгрыю, а так-жа, Нямеччыну, якія не далучацца да блёкады.

У рэзкім тоне газэты адзываюцца аб Лізе Нацый, кажучы, што яна зрабілася аружжам ангельскай палітыкі.

## Справа санкцыі адносна Італіі вырашана Лігай Нацыяў позытыўна.

Як ужо ведама, 4 г. м. Італія пачала ваенныя дзеяньні ў Афрыцы. У сувязі з гэтым адбылося паседжаньне Лігі Нацый, на якім пастаноўлена прызнаць Італію нападаючай стараной. Такім чынам пачынае аўтоматычна дзеіць 16 § статуту Лігі, які кажа аб санкцыях у адношаньні да дзяржавы, якая пачне вайну.

Рэзалюцыя аб санкцыях аднак не прайшла аднагалосна. Процiў выказаліся Вэнгрыя і Аўстрыя. Такім чынам гаспадарчая блёкада якая, відаць, будзе праведзена ў першую чаргу, страціўшы свой монолітны характар, ня зьяўляецца для Італіі так ужо вельмі грознай, тым больш, што, трэба думаць, да Аўстрыі і Вэнгрыі далучыцца яшчэ і Нямеччына.

## Гіены пажыраюць раненых

Абісінскі Чырвоны Крыж у Адзіс-Абэбе зьвярнуўся ў Цэнтральны Чырвоны Крыж у Жэнэве з тэлеграфнай просьбай прыйсьці з дапамогай у яго працы. Чырвоны крыж у Адзіс-Абэбе скардіцца, што ў выніку малой колькасьці дактароў і санітарнага пэрсонэлю наагул, раненыя абісінцы ня раз ляжаць па некалькі дзён на полі, дзе на іх нападаюць гіены, і москіты. Ня рэдка пры такіх умовах раненых абісінцаў пажыраюць гіены жыўцом.

Недахоп лекаў, асабліва хініны, вельмі перашкаджае працы абісінскага Чырвонага Крыжу.

## Ахвяры італа-абісінскай вайны

Па атрыманым дадзеным з Александрыі дагэтуль ахвяры італа-абісінскай вайны выражаюцца ў наступных лічбах:

Абісінцаў забіта 11 тыс., ранена — 16 тыс. і ўзята ў палон 12. тыс. чалавек.

Італьянцаў забіта — 2 тыс., ранена 4500 і ўзята ў палон 900 чалавек.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## Анты-фашыстоўскі рух у Італіі.

З Белграду паведамляюць, што ў Мэсіне, у мясцовасьці Луса забіта двух вялікшых дзеячоў фашыстоўскай арганізацыі. Усё больш разьвіваюць сваю дзейнасьць падпольныя арганізацыі. У Рыме распаўсюджваюцца анты-фашыстоўскія проклямацыі. У Палермо выкрыта падпольная друкарня. На востраве Сіцылія арыштавана каля 1500 чалавек, падазроных у анты-фашыстоўскай прапагандзе. Робяцца масавыя аблавы на дызэртэраў.

## Муссоліні прыедзе ў Афрыку.

Спэцыяльны корэспондэнт „Дэйлі Мірор“ з Эрытрэі паведамляе, што тут чакаюць у хуткім часе прыбыцьця Муссоліні, каторы возьме ўчасьце ў урачыстасьці адкрыцьця памятніка, пасьвячонага згінуўшым італьянскім салдатам у 1896 годзе ў баі каля Адуі. Памятнік гэты ўжо прывезены ў Адую і будзе пастаўлены ў цэнтры гораду.

## Праўны куток.

**Ігнату В. Браслаўшчына.**

**Пытаньне.** Адзін віленскі купец купіў у мяне яблыкі, якія меўся за тыдзень забраць. Даў пры гэтым 60 зл. задатку. Прайшло ўжо больш чымся два тыдні, а купец не зьяўляецца. Яблыкі псуюцца і ня ведаю, што рабіць? Ці магу я прадаць гэтыя яблыкі іншаму купцу, а калі так, то што станецца з задаткамі: ці магу яго не зьвяртаць?

**Адказ.** Дзеля таго, што варункаў умовы не датрымаў купец, бо ў умоўленым тэрміне не забраў яблыкаў, маеце права: 1) або затрымаць задатак і прадаць яблыкі іншаму купцу, або 2) у дарозе судовага працэсу дамагацца выкананьня ўмовы праз першага купца і пакрыцьця панесеных стратаў. (Код. Забав. г. 27. X. 1933, арт. 74).

**Мікалаю Г. Пастаўшчына.**

**Пытаньне.** У якіх Судох заінтэрэсаваныя асобы ня могуць выступаць самі без адваката, а перадусім, як гэтая справа выглядае ў Акружным Судзе?

**Адказ.** У справах цывільных перад Судамі: Найвышэйшым у Варшаве, Апэляцыйнымі і Акружнымі заўсёды павінен старану заступаць адвакат і наагул весьці справу. Што датычыць Акружных судоў—у пэўных выпадках старана можа выступаць без адваката, а г. зн., калі Акружны Суд разглядае справу як другая інстанцыя (ў справах, у якіх зложана апэляцыя ад прыгавору Гродзкага Суду). Перад Гродзкімі Судамі, а таксама ў сэкрэтар'яце іншых судоў адвакацкае заступніцва не абавязвае.

**Хведару Т. Лідчына.**

**Пытаньне.** За вывіх і зламаньне маёй рукі, Франука К., два месяцы таму назад, засудзілі на 6 месяцаў турмы. Зламанае месца зраслося, але вывіх быў такі моцны, што і цяпер не магу працаваць. Доктар акрэсьліў 30% трывалай утраты здольнасьці да працы. Ці магу дамагацца ад успомненага Франука К. адшкадаваньня?

**Адказ.** Можаце. Трэба зложыць у Суд позыў (скаргу), далучыць пасьведчаньне доктара аб працэнтовай і трывалай утраце здольнасьці да працы і дамагацца, каб Суд засудзіў ад Ф. К. на Вашу карысьць сталую рэнту. Высокасьць рэнты Вы павінны акрэсьліць самі. Апрача таго, можаце прасіць, каб Суд Вам прысудзіў адшкадаваньне за лячэньне. Да позыву трэба далучыць копію прыгавору карнага Суду (арт. 16 II Код. Забав. з 27. X. 33 г.).

*МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.*

## Фэльдмаршал Дацэнка.

У Саветах узноўлены афіцэрскія рангі: ад паручніка да маршала.

З газэтаў.

Мастакі бальшавікі.

Экспэрымэнтатары.

То чалавек у іх — ноль, які лёгка ставіцца да сьценкі, то ізноў ён нечага варт і, паводле старой традыцыі, яму трэба даваць розныя рангі.

Годзі ўжо быць „таварышамі“!...

А перад самым бальшавіцкім пераваротам на паўдзённа-заходнім расейскім фронце, каля Рожышча, было гэтак:

Выбралі ў нашым корпусе новы камітэт — яшчэ небальшавіцкі. Камітэт выбраў мяне старшынёю. На дваццаць два сябры камітэту два былі бальшавікі: прапаршчык С. і ефрэйтар Дацэнка.

Няварта было-б можа і ўспамінаць пра беднага Дацэнку, калі-б не зрабіў ён бліскучай бальшавіцкай кар'еры пасьля 25 кастрычніка 1917 году.

Ефрэйтар Дацэнка быў няпісьменны, а ў прамовах выражаўся цікава:

— Наша пролетарыя.. За нашу пролетарыю...

Гэта „пролетарыя“ была для Дацэнкі нейкаю казачнаю німфаю, якую любіў Дацэнка сэрцам маладога паганскага бажка.

Раз неяк Дацэнка просіць мяне:

— *Товарыш підпаручык! Біда, бачытэ—нэграмотный я... Навчыть, будзь ласка! Мэні тількі, щоб підпісатысь уміты...*

З ахвотаю я ўзяўся за „адукацыю“ Дацэнкі.

Дасталі азбуку з палявое кнігарні.

Але мой настаўніцкі мэтод ні на што ня прыдаўся.

Дацэнка хацеў навучыцца падпісвацца пасвойму.

— *Мэні тількі підпісатысь... Вы, товарышу, напышыть мою фамілію олівцэм, а я по нёму чорнылом і будэ гаразд...*

Гэтак і выйшла.

Праз дзень Дацэнка з размахам выводзіў сваё прозьвішча на паперы.

У самым пачатку сьнежня 1917 г. мы ехалі з Дацэнкай самаходам да станцыі Маневічы. А далей—я ў Менск, а Дацэнка ў Магілёў. Я — на агульнабеларускі зьезд, Дацэнка—ў галоўную кватэру да Крыленкі. Там яго назначылі начальнікам даставы (*снабжений*) для ўсіх расейскіх збройных сілаў.

Калі пад Луцкам пачалі дохнуць коні ад недастачы фуражу, дык конны корпус паслаў дэлегацыю да Дацэнкі

— *Цэ нэ біда,* — кажа Дацэнка,—*у № корпусі на кавказькому фронці, шчэ сто пудів вівса е...*

Прайшло восемнаццаць гадоў.

Прачытаў я пра аднаўленьне афіцэрскіх рангаў у чырвонай арміі, зьдзівіўся ды задрамаў пад дожджык.

І прысьніў вайну, каб яе сьвет ня знаў!

Бяруць мяне бальшавікі ў палон пад Менскам і вядуць да свайго павадыра.

Згінь ты—мара!...

Дацэнка!... Таварыш Дацэнка?!

— *Я тобі нэ товарыш, а фэльдмаршал!* — чую знаёмы, але які цяпер грозны, голас...

Адразу я прачхнуўся.

*Паупэр.*



Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тэл. 21-14.